**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.41, 19.46, 13.05;
Віцебск — 6.30, 19.37, 13.08;
Магілёў — 6.30, 19.35, 13.05;
Гомель — 6.27, 19.33, 13.06;
Гродна — 6.54, 20.03, 13.09;
Брэст — 6.59, 20.00, 13.01.

**МЕСЯЦ:**
Маладзік
3 КРАСАВІКА

**ІМЯНІНЫ:**
Івана, Сяргея, Аляксандры, Клаўдзіі, Віктара; Францішка, Уладзіслава.

# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.

2 КРАСАВІКА 1992 г.
чацвер, № 68 (21846)

# РОЗГАЛАС

## АБ'ЯДНАЛІСЯ, КАБ ВЫЖЫЦЬ

ПІНСК. (**С. Шапіра**). Даўно ўжо не відаць хвалебных газетных рэпартажаў з буйнейшага на Палессі свінакомплексу «Паўднёвае». Міжгаспадарчае прадпрыемства на 54 тысячы свіней аказалася сёння ў сапраўды крытычнай сітуацыі. Заканчваецца тэрмін службы памяшканняў і абсталявання, хварэе жывёла, але, бадай, самая галоўная праблема — з кармамі. У выніку ідзе пастаяннае зніжэнне вытворчасці мяса. Выйсце з цяжкага становішча вырашылі шукаць два калектывы: «Паўднёвае» і суседні моцны калгас «Дружба народаў». На іх базе створана міжгаспадарчае аб'яднанне «Паўднёвае». Калгас жа становіцца своеасаблівай падсобнай гаспадаркай, галоўная задача якой — забеспячэнне комплексу кармамі.

## КУПЛЯЮЦЬ ЛЮДЗІ КАРОЎ

**ЛЕЛЬЧЫЦЫ. Колькі каштуе зараз карова? Ад 15 да 20 тысяч рублёў. Вядома ж, далёка не кожны вясковец можа набыць яе за такія грошы.**

**А вось у саўгасе-камбінаце «Ударны» кошт рагулі для жыхароў мясцовага сельсавета ў 4—5 разоў танней. Такое рашэнне адміністрацыі дазваляе адначасова ўмацоўваць самастойнасць асабістых падвор'яў і стабілізаваць эканамічнае становішча саўгаса. Бо згодна з заключанымі дагаворамі, тыя, хто набыў жывёлу, лішкі малака і мяса абавязаны здаваць дзяржаве ў залік «Ударнаму».**

ЗДАРЭННІ

## ПРАВЕРЫЛІ ЛЕПШ, ЧЫМ КАНТРАЛЁРЫ

Доўгі час Ірына Іосіфаўна Бяззубенка працавала намеснікам дырэктара Аршанскага гархарчгандлю. У апошні час стала кіраўніком гэтай установы і разгарнула такую бурную дзейнасць, выявіла такую прадпрымальнасць, што ў працоўным калектыве толькі здзівіліся. Маўляў, во як кіраўнікі жывуць, на шырокую нагу: дэфіцытных рэчаў бяруць, колькі хочуць і наогул усё ім дазволена.

І вось у адну з сакавіцкіх начэй кабінет дырэктара наведалі таямнічыя госці. Яны ўзламалі дзверы і праверылі, ці гэта сапраўды так. Усё перавярнулі дагары нагамі ў шафах, рабочых сталах, сейфах. Цікава, што ж аказалася ў кабінеце кіраўніка? А шмат чаго. Скрынкі з шампанскім і гарэлкай, каньяк, кансервы, дарагія шакаладныя цукеркі, іншыя каштоўныя тавары.

Начныя госці праверылі і пакой галоўнага бухгалтара. І таксама знайшлі спіртныя капіткі (гарэлку, каньяк), адмысловы жаночы абутак, а ў шафе адкрыта, навідавоку ляжалі купоны на значную суму.

А потым асмялелыя «візіцёры» вырашылі патрэсці і касу. Узламалі ўваходныя дзверы, праверылі шафы і рабочы стол. Калі адчынілі яго шуфлядку, то ўбачылі грошы і ключы ад сейфа. Адчынілі і яго, а там пачкамі ляжалі 126 тысяч рублёў.

Але спрацавала сігналізацыя. На месца здарэння а пятай гадзіне выехала міліцыя і ўстанавіла парушэнне. Для расследавання выклікалі аператыўную следчую групу. А яна выявіла, што таямнічыя госці не захацелі паспытаць ні гарэлкі, ні каньяку, не закусвалі далікатэснымі кансервамі і шакаладнымі цукеркамі і наогул нічога з сабой не прыхапілі. Сапраўды, не ўзялі ніводнага аркуша купонаў, не пакваліліся нават на вялікую суму грошай.

Супрацоўнікі міліцыі здзіўляюцца здарэнню. Вылучана версія, што ўзломшчыкі проста хацелі пераканацца ў тым, што гэтыя гаспадары, якія займаюць адказныя пасады, у час усеагульнага дэфіцыту жывуць, як кажуць, на шырокую нагу. І давесці гэта да ведама вартаўнікоў закона.

Можа, Міністэрства гандлю рэспублікі зацікавіцца, як працуюць яго падначаленыя, і азнаёміцца з відэаплёнкай, у якой дэталёва паказана іх дзейнасць.

Дарэчы, плёнка знаходзіцца ў кабінеце начальніка міліцыі г. Оршы падпалкоўніка Аляксандра Станіслававіча Длугаша.

**Георгій МАРОЗ,**
**нештатны кар. «Звязды».**

## БУДУЦЬ НОВЫЯ ДАРОГІ

**Дарогі Зэльвеншчыны добрымі не назавеш. Таму рабочыя ДУ-118 вырашылі ўласнымі сіламі ўзвесці сучасны асфальтабетонны завод на паўночнай ускраіне Зэльвы.**

**Будаўнічай брыгадай узведзена бітумасховішча, кацельня, трансфарматарная падстанцыя і іншыя аб'екты. Праектная магутнасць будучага завода — 35 тысяч тон асфальтабетону ў год. У суткі за дзве змены яго будзе выпрацоўвацца да 250 т. З выхадам завода на праектную магутнасць можна будзе асфальтаваць да 25 кіламетраў дарог у год.**

## АДКУЛЬ РАСТУЦЬ НОГІ?

ГОМЕЛЬ. Як і чакалася, рост беспрацоўя і няпоўная загружанасць работай калектываў прамысловых прадпрыемстваў горада выклікалі рост злачыннасці. Асабліва гэта датычыць структурных падраздзяленняў вытворчага аб'яднання «Гомсельмаш», дзе, як вядома, больш чым 30-тысячны калектыў знаходзіўся ў вымушаным месячным водпуску.

Так, у адну ноч на заводзе ліцця і нармалей былі ўзламаны дзверы склада на ўчастку камплектацыі і ўкрадзена 36 відэамагнітафонаў агульным коштам 720 тысяч рублёў. А з тэрмічнага цэха № 1 таямніча зніклі 22 медныя лісты і медны круг вялікай вагі.

Нехта «прырабіў ногі» 17 скрыням абліцовачнай пліткі, 28 кг фарбы і 6 кг эмалі на заводзе «Гомелькабель», дзе з-за выкрутасаў у пастаўках усяго неабходнага для вытворчасці работа ідзе цераз пень-калоду.

Узламаўшы дзверы ў складзе туббальніцы, нехта ўкраў халадзільнік, 210 прасцін, 90 ручнікоў і 20 падкоўдранікаў.

Усе вышэйпералічаныя рэчы вынесці ў сумцы ці пад пахай, вядома ж, нельга. Мяркуючы па ўсім, іх вывезлі. Але якім макарам, калі на прахадных грозна стаяць стралкі ваенізаванай аховы, якія спраўна атрымліваюць грошы за службу? У сувязі з гэтым хто-ніхто з гараджан выказвае меркаванне, а ці не «завязаны» тут і яны, як гэта было нядаўна на чыгунцы, калі ахоўнікі аб'яднання ўваходзілі ў вялікую злачынную групу і «патрашылі» вагоны? Меркаванні меркаваннямі, але, як кажуць, не злоўлены — не злодзей.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## МЯККАЯ МЭБЛЯ—ЗА ЦВЁРДУЮ ВАЛЮТУ

**БРЭСТ. Паспяхова ідзе гандаль у мэблевым магазіне па вуліцы Набярэжнай. Прычым гандаль не просты, а адмысловы: за свабодна канверсуемую валюту. Адна з польскіх фірм Бяла-Падляскі пастаўляе сюды па кантракту наборы мяккай мэблі, кухні, «сценкі». Іх кошт — 500—550, 270—350 і 500 долараў адпаведна. Жадаючых выкласці запасы сваіх «зялёненькіх» у Брэсце столькі, што ў магазіне ўжо даўно ўтварылася чарга...**

**БелаПАН.**

## ГРОШЫ ТРЭБА ЗАРАБЛЯЦЬ

Учора работнікі Дзяржаўнага камітэта па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва на чале са старшынёй камітэта Г. Бадзеем правялі прэс - канферэнцыю для журналістаў. На ёй закраналіся пытанні сацыяльнага плана, звязаныя з рыначнымі пераўтварэннямі, была пракаменціравана нядаўна прынятая Дзяржаўная праграма занятасці насельніцтва.

Асобнае пытанне — салігорскае. Як вядома, гарнякі дабіваюцца павышэння заработнай платы да сямі і больш тысяч рублёў. Пры гэтым пэўныя крокі насустрач ім робяцца. У прыватнасці, гэта датычыць расшыраных магчымасцей экспарту мінеральных угнаенняў і, адпаведна, выкарыстання валютнай выручкі. Разам з тым падкрэслівалася: пара ўжо ўсім нам зразумець, што дзяржава грошай сама ніадкуль не можа ўзяць, іх трэба зарабляць самім. Тым больш, што менавіта ў гэтым ніхто нікога не абмяжоўвае.

## БЕЛАРУСЬ—ПОЛЬШЧА: ЯШЧЭ АДНО ПАГАДНЕННЕ

Яшчэ адзін крок на шляху ўмацавання ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва зрабілі рэспублікі Беларусь і Польшча: падпісана міжурадавае пагадненне аб арганізацыі перавозак паміж дзвюма дзяржавамі.

Дакумент, які падпісалі ў Мінску міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка і намеснік міністра транспарту і суднаходства Рэспублікі Польшча Збігнеў Сулятыцкі, прадугледжвае арганізацыю і рэгуляванне перавозак грузаў непасрэдна паміж Беларуссю і Польшчай чыгуначным і аўтамабільным транспартам з выкарыстаннем польскіх марскіх партоў. Для гэтых мэт будзе створана сумесная Беларуска-Польская экспедытарская фірма. Беларускім знешнегандлёвым арганізацыям, якія будуць карыстацца яе паслугамі, польскі бок прадаставіць ільготныя крэдыты.




Мал. М. СЕЎЛЮКА.

## ЗА ДЭБОШ У НЕРАБОЧЫ ЧАС НЕ АДКАЗВАЕМ!

**Цікавы пункт паявіўся ў калектыўным дагаворы паміж кіраўніцтвам і працоўным калектывам кобрынскай аўтабазы «Вадбудаўтатранс». Па агульнай згодзе ў дагаворы было запісана, што правапарушэнні, здзейсненыя работнікамі аўтабазы ў нерабочы час, разглядацца не будуць і вінаватыя ніякай адказнасці не панясуць. Больш таго, кіраўніцтва прадпрыемства паведаміла аб гэтым у ГРАУС, папярэдзіўшы работнікаў міліцыі, каб ніякіх папер на рэагаванне больш не дасылалі.**

**БелаПАН.**

## ХТО З'ЕЎ НАША МЯСА?

З заклікам паклапаціцца пра саміх сябе там, дзе гэта магчыма, выступіла Аршанская рада БНФ. Апошнія некалькі тыдняў аршанцы сустракаюць электрычкі са Смаленска і прама на пероне прадаюць пасажырам купоны па 10 капеек за штуку. Тым самым дапускаецца вываз прамтавараў і прадуктаў. Фактычна для жыхароў Расіі кілаграм мяса каштуе ўсяго на 2 рублі 50 капеек даражэй, чым для жыхароў Беларусі (50 рублёў плюс 2.50 за купоны).

Як вядома, Пінскі мясакамбінат спыніў пастаўкі Санкт-Пецярбургу і Маскве, спасылаючыся на той факт, што расіяне запазычылі 40 мільёнаў рублёў і плаціць не збіраюцца.

«Людзі добрыя, мяса і ўсяго астатняга ў нас небагата. Вы забіраеце яго ў сваіх жа дзяцей. Калі яно ёсць сёння, дык гэта не азначае, што пасля такога нашэсця хоць што-небудзь застанецца. А закон эканомікі няўмольны: менш тавараў — значыцца, яны даражэй», — гаворыцца ў звароце рады БНФ.

**Аляксандр ХАІНСКІ,**
**БелаПАН.**

## У Прэзідыуме Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

Пад старшынствам В. Ф. Кебіча ў Доме ўрада адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь. Асноўны пункт парадку дня — «Аб мерах, прымаемых у рэспубліцы па пытаннях садзейнічання занятасці насельніцтва грамадска неабходнай працай». З дакладам выступіў старшыня Дзяржаўнага камітэта Беларусі па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва Г. П. Бадзей.

Адзначана, што ў сувязі з пераходам эканомікі рэспублікі на рыначныя адносіны ўсё больш востра дае аб сабе знаць праблема беспрацоўя. Так, у 1991 годзе ў службу занятасці па пытаннях працаўладкавання звярнулася 148,7 тысячы чалавек. За шэсць месяцаў пасля ўвядзення Закона аб занятасці (з 1 ліпеня 1991 года) у рэспубліцы прызнана беспрацоўнымі 3.384 чалавекі, з іх атрымалі дапамогу 2.261 чалавек. Паводле экспертных ацэнак, з дзеючай матэрыяльнай вытворчасці ўжо ў гэтым годзе можа быць вызвалена дадаткова да 25—30 працэнтаў працуючых. Найбольш безабароннымі перад тварам гэтай пагрозы аказваюцца жанчыны, моладзь — выпускнікі прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў, тэхнікумаў, ВНУ, а таксама звальняемыя ў запас ваеннаслужачыя.

Гэтыя трывожныя тэндэнцыі выклікаюць сур'ёзную занепакоенасць урада. Створана Дзяржаўная служба занятасці насельніцтва, утвораны Дзяржаўны фонд садзейнічання занятасці, пачаў дзейнічаць рэспубліканскі навукова-метадычны і вучэбны цэнтр «Алгарытм» па перанавучэнню беспрацоўных. З удзелам ФРГ завяршаюцца работы па адкрыццю ў Мінску цэнтра перанавучэння ваеннаслужачых, звальняемых з Заходняй групы войск, і членаў іх сем'яў.

Па выніках абмеркавання Прэзідыум Савета Міністраў зацвердзіў Праграму занятасці насельніцтва Рэспублікі Беларусь на 1992 год. На яе ажыццяўленне ў Дзяржаўны фонд садзейнічання занятасці будзе пералічана больш за 1 мільярд рублёў.

В. Ф. Кебіч звярнуў асаблівую ўвагу на неабходнасць выпрацоўкі канкрэтнага механізма па ператварэнню праграмы ў жыццё. Важнейшыя для лёсаў людзей рашэнні не павінны застацца на паперы.

Прэзідыум разгледзеў таксама пытанне аб стварэнні пры Савеце Міністраў Беларусі Камітэта па выкарыстанню паветранай прасторы і кіраванню паветраным рухам. Прынята адпаведная пастанова.

Абмеркаваны шэраг іншых праблем сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

# КАЛІ ВЫ—БЕСПРАЦОЎНЫ...

**З моманту ўступлення ў сілу Закона аб занятасці насельніцтва (ліпень 1991 года) у рэспубліканскую службу занятасці звярнуліся амаль 90 тысяч чалавек, больш за 4 тысячы атрымалі статус беспрацоўнага. Апошнім часам назіраецца тэндэнцыя да рэзкага павелічэння колькасці тых, хто звяртаецца па пытаннях працаўладкавання. У студзені гэтага года ў адносінах да снежня 1991-га рост склаў 70 працэнтаў.**

Трэба сказаць, што нашы грамадзяне аказваюцца непадрыхтаванымі да такога павароту падзей і даволі доўга знаходзяцца ў стане разгубленасці, а часу «на раскачку» жыццё, як правіла, не пакідае. Многія вызваленыя работнікі, звяртаючыся ў службу занятасці, не могуць дакладна сфармуляваць, якую менавіта работу і дзе яны хацелі б атрымаць. Пераважна патрабуюць добрааплачваемую работу, бліжэй да дому і толькі ў першую змену. А знайсці жаданую вакансію цяжка, асабліва для асоб з вышэйшай адукацыяй. Ужо сёння ёсць жорсткая канкурэнцыя пры ўладкаванні на работу па асобных прафесіях. Напрыклад, усё большае значэнне пры ўладкаванні на работу бухгалтарам малога прадпрыемства мае вопыт папярэдняй работы ў камерцыйных структурах: кааператывах, сумесных прадпрыемствах і г. д.

Рэгістрацыя грамадзян у якасці асоб, якія шукаюць работу, і беспрацоўных ажыццяўляецца ў раённых, гарадскіх цэнтрах занятасці насельніцтва па месцы прапіскі. Заводзіцца рэгістрацыйная картка, і на працягу 14 дзён з моманту рэгістрацыі ажыццяўляецца пошук падыходзячай работы. Калі такую падабраць немагчыма, служба занятасці можа прапанаваць перападрыхтоўку з мэтай атрымання новай або сумежнай спецыяльнасці. У выпадку непрадастаўлення за ўказаны перыяд падыходзячай работы або магчымасці прафесіянальнай падрыхтоўкі тыя, хто шукае работу, набываюць статус беспрацоўнага.

Для грамадзян, вызваленых у сувязі з рэарганізацыяй або ліквідацыяй прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, ажыццяўленнем мерапрыемстваў па скарачэнню колькасці або штату работнікаў, перыяд пошуку работы павялічваецца да іх працаўладкавання, але не больш чым да трох месяцаў з дня звальнення, пры ўмове рэгістрацыі гэтых грамадзян на працягу двух тыдняў пасля звальнення ў цэнтры занятасці ў якасці асоб, якія шукаюць работу. Яны прызнаюцца беспрацоўнымі на наступны дзень пасля заканчэння тэрміну пошуку работы або датэрмінова пры іх адмове ў гэты перыяд ад дзвюх прапаноў падыходзячай работы. Калі вызваленыя (з прычыны ліквідацыі або рэарганізацыі прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, скарачэння штату) работнікі на працягу двух тыдняў не звярнуліся ў цэнтр занятасці насельніцтва, яны прызнаюцца беспрацоўнымі на агульных падставах, але не раней чым пасля заканчэння месяца з моманту скасавання з імі працоўнага дагавора.

Грамадзяне, зарэгістраваныя дзяржаўнай службай занятасці ў якасці беспрацоўных, маюць права на атрыманне дапамогі па беспрацоўю або стыпендыі ў перыяд іх прафесіянальнай падрыхтоўкі. Рашэнне аб прызначэнні дапамогі і памерах выплат па беспрацоўю прымаецца адміністрацыяй цэнтра занятасці насельніцтва горада, раёна. Пры гэтым прафесіянальная падрыхтоўка беспрацоўных ажыццяўляецца ў выпадках:

— немагчымасці падбору падыходзячай работы з-за адсутнасці ў беспрацоўнага прафесіянальнай кваліфікацыі;

— неабходнасці змянення кваліфікацыі ў сувязі з адсутнасцю работы, якая адпавядала б прафесіянальным навыкам беспрацоўнага;

— страты здольнасці да выканання работы па ранейшай прафесіі.

Пярвічнымі звеннямі дзяржаўнай службы занятасці, якія аказваюць дапамогу ў прафесіянальнай падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў, з'яўляюцца раённыя, гарадскія (раённыя ў горадзе) цэнтры занятасці. Яны заключаюць дагаворы, выплачваюць стыпендыю асобам, накіраваным на вучобу.

Як правіла, на перападрыхтоўку накіроўваюцца асобы, якія маюць гарантыю працаўладкавання. З гэтай мэтай заключаецца трохбаковы дагавор паміж асобай, накіроўваемай на перападрыхтоўку, цэнтрам занятасці насельніцтва і прадпрыемствам, на якім пасля заканчэння прафесіянальнага навучання будзе працаваць прайшоўшы перападрыхтоўку. У адпаведнасці з гэтым дагаворам цэнтр занятасці аплачвае прафесіянальнае навучанне, выплачвае стыпендыю ў перыяд навучання, а прадпрыемства бярэ абавязацельства па працаўладкаванню.

Разам з тым у асобных выпадках трохбаковы дагавор заключыць нельга. Напрыклад, калі перападрыхтоўваемы вырашыў адкрыць сваю ўласную справу або ўзяць патэнт на індывідуальную працоўную дзейнасць, то гарантам яго наступнай працоўнай дзейнасці можа быць толькі ён сам. У гэтым выпадку заключаецца двухбаковы дагавор паміж цэнтрам занятасці і асобай, накіроўваемай на вучобу, са спасылкай на свабоднае працаўладкаванне.

Складаная сітуацыя з працаўладкаваннем беспрацоўных у многім прадвызначае патрабаванні да якасці навучання, прычым праходзячыя перападрыхтоўку ўсё часцей жадаюць набыць больш устойлівыя практычныя навыкі па выбранай прафесіі за кошт скарачэння тэарэтычнай часткі навучання. І гэта апраўдана, бо большасць накіраваных службай занятасці маюць высокаадукацыйную падрыхтоўку, але часцей за ўсё слаба прыстасаваны да ўмоў рыначнай эканомікі. У сувязі з гэтым адным з асноўных напрамкаў перападрыхтоўкі з'яўляецца навучанне камп'ютэрным тэхналогіям, малому бізнесу, прафесіям у сферы абслугоўвання насельніцтва. У меншых аб'ёмах ажыццяўляецца прафесіянальная падрыхтоўка па рабочых прафесіях у будаўніцтве, прамысловасці, на транспарце. Гэта тлумачыцца перш за ўсё тым, што ў гэтых сферах дзейнасці яшчэ ёсць каля 60 тысяч вакансій і магчымасць прамога працаўладкавання.

Па меры росту колькасці вызваленых і скарачэння колькасці вакансій будуць нарошчвацца і аб'ёмы перападрыхтоўкі па рабочых прафесіях. Асобам, якія доўгі час не працуюць, часцей за ўсё неабходна або аднавіць страчаныя навыкі, або набыць новую прафесію, якая не патрабуе доўгай падрыхтоўкі. Гаворка ідзе аб прафесіях швачкі, печніка, газаэлектразваршчыка, нянечкі, спецыяліста па перапрацоўцы сельгаспрадукцыі і г. д.

Усё большая колькасць вызваленых жадае набыць прафесію для таго, каб узяць патэнт на індывідуальную працоўную дзейнасць. Карыстаецца попытам падрыхтоўка па прафесіях закройшчыка, вязальшчыцы, масажыста, цырульніка і інш.

Карыстаючыся выпадкам, хацеў бы звярнуцца да студэнтаў. Многіх з іх чакае свабоднае працаўладкаванне. Найбольшыя шанцы ў тых, хто ўмее працаваць на персанальных камп'ютэрах, валодае замежнай мовай, асвоіў у працэсе навучання сумежную прафесію, мае веды ў сферы рыначнай эканомікі.

**В. АЛЬШЭЎСКІ,**
**начальнік аддзела перападрыхтоўкі кадраў Рэспубліканскага цэнтра занятасці насельніцтва.**

## ЦЭНЫ НА РЫНКАХ

**(НА 1 КРАСАВІКА Ў РУБЛЯХ)**

**Мінск.** Ялавічына — 90, свініна — 90—110, бараніна — 80—90, масла — 90, алей — 55, малако — 15, тварог — 40, смятана — 80, яйкі— 15, бульба — 4—8, цыбуля — 15, морква — 8—10, буракі — 5—8, яблыкі —40—50, апельсіны — 50—70, мандарыны — 50—70, піва (1 бут.) — 10, цыгарэты «Космас» — 15.

Адзін купон — 10 капеек.

**Гомель.** Свініна —70—80, масла — 55—60, бульба — 3, морква — 4, цыбуля — 8—20, часнок (галоўка) — 2, яблыкі — 45—50, лімоны — 80.

**Рыга.** Ялавічына — 80—140, свініна — 85—140, куры — 80—110, масла—200, алей — 200, малако — 20, тварог — 60—70, смятана — 80, цыбуля — 25—30.

**Талін.** Свініна — 60—100, масла—120—130, капуста — 8, буракі — 6, морква —10, цыбуля — 36.

**Масква.** Ялавічына —150—200, свініна — 150—200, куры — 250, алей — 80, малако — 50, тварог — 70, смятана — 100, яйкі — 30—35, бульба — 8—10, капуста — 15, морква — 15, цыбуля — 40—50.

**Санкт-Пецярбург.** Ялавічына — 100—200, свініна — 150—250, куры — 100—150, масла — 250, алей — 60, тварог — 50, смятана—130—150, яйкі — 30—40, бульба — 10—20, капуста—15—30, буракі — 15—20, морква — 10—30, цыбуля — 25—30.

## З ДВУХ БЕД ВЫБІРАЮЦЬ МЕНШУЮ

**ГРОДНА (А. Дук). Рэчавы рынак абласнога цэнтра вядомы не толькі ў рэспубліцы, але і за яе межамі. Тут у апошні час значна абвастрылася крыміагенная абстаноўка. З-за загружанасці праезджай часткі прылеглых вуліц у дні работы рынку гарадскія аўтобусы не маюць магчымасці рухацца па сваіх маршрутах. Кіраўніцтвам гарадскіх рынкаў не прымаюцца належныя меры па паляпшэнні іх санітарнага стану. Таму выканком Гродзенскага гарадскога Савета народных дэпутатаў вырашыў рэгламентаваць з 30 сакавіка гэтага года рэжым работы рэчавага рынку. Цяпер ён будзе працаваць два разы на тыдзень: у суботу і нядзелю з 7 да 16 гадзін.**

### Удакладненне

**У газеце «Звязда» ад 1 красавіка г. г. была змешчана інфармацыя БелаПАНа, у якой са спасылкай на старшыню праўлення Нацыянальнага банка РБ С. Багданкевіча паведамлялася аб тым, што ў Англіі выраблена першая партыя беларускай нацыянальнай валюты — талераў, якія паступілі ўжо ў Мінск.**

**Як высветлілася, С. Багданкевіч падобных заяў не рабіў, а таму інфармацыя БелаПАНа не мае пад сабой ніякіх падстаў. Поўную адказнасць за скажэнне інфармацыі нясе агенцтва БелаПАН.**

## *Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

### Аб неадкладных мерах па забеспячэнню насельніцтва Рэспублікі Беларусь лекавымі прэпаратамі і вырабамі медыцынскага прызначэння ў 1992 годзе

У мэтах задавальнення патрэбнасці ўстаноў аховы здароўя і насельніцтва рэспублікі ў лекавых прэпаратах і вырабах медыцынскага прызначэння Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Дзяржэканомплану выдзеліць у I квартале 1992 г. Міністэрству рэсурсаў з рэспубліканскага фонду стабілізацыі рынку і рыначнага фонду матэрыяльна - тэхнічныя рэсурсы і тавары народнага спажывання на суму 80 млн. долараў ЗША згодна з дадаткам для рэалізацыі іх на знешнім рынку з мэтай закупкі неабходных лекавых прэпаратаў, фармацэўтычных субстанцый і вырабаў медыцынскага прызначэння.

Дзяржаўнаму камітэту па знешніх эканамічных сувязях забяспечыць выдачу ў аператыўным парадку экспартных ліцэнзій на гэтую прадукцыю.

Міністэрству аховы здароўя ўстанавіць кантроль за мэтавым выкарыстаннем выдзяляемых згодна з гэтай пастановай матэрыяльна - тэхнічных рэсурсаў і тавараў народнага спажывання.

2. Даручыць Банку знешнеэканамічнай дзейнасці пры фарміраванні Дзяржаўнага валютнага фонду Рэспублікі Беларусь пералічваць у першачарговым парадку на рахунак Міністэрства аховы здароўя валютныя сродкі для закупкі за мяжой лекавых прэпаратаў і вырабаў медыцынскага прызначэння.

3. Міністэрству аховы здароўя:

у пяцідзённы тэрмін прадставіць Міністэрству рэсурсаў спецыфікацыю закупляемых за мяжой медыкаментаў;

штомесячна інфармаваць Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь аб пастаўках лекавых сродкаў у рэспубліку.

4. Дзяржаўнаму камітэту па знешніх эканамічных сувязях, Банку знешнеэканамічнай дзейнасці, Міністэрству фінансаў, Міністэрству аховы здароўя, Дзяржэканомплану, Міністэрству рэсурсаў у сакавіку-красавіку бягучага года прапрацаваць пытанне аб прыцягненні замежных крэдытаў у суме 40—45 млн. долараў ЗША для закупкі за рубяжом у 1992—1993 гадах лекавых сродкаў і тэхналогій іх вырабу. Прадугледзець магчымасць пагашэння гэтых крэдытаў за кошт экспартных паставак матэрыяльна - тэхнічных рэсурсаў. Канкрэтныя прапановы па гэтаму пытанню прадставіць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 мая 1992 г.

5. Міністэрству аховы здароўя сумесна з Міністэрствам сацыяльнага забеспячэння, Міністэрствам фінансаў, Дзяржаўным камітэтам па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва па ўзгадненню з Федэрацыяй прафсаюзаў Беларусі да 1 мая

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## Весткі адусюль

### АД ПЕРАМЕНЫ МЕСЦ СКЛАДАЕМЫХ...

**Урад Літоўскай Рэспублікі прыняў пастанову аб ліквідацыі ўпраўлення кантролю за прэсай пры Міністэрстве ўнутраных спраў. Затое заснавана ўпраўленне кантролю за прэсай пры Міністэрстве юстыцыі. Назва ж ведамства засталася ранейшай.**

### ЦІ АДБУДЗЕЦЦА СУД НАД МІЛЬЯНЕРАМ СТЭРЛІГАВЫМ?

У сістэме біржаў «Аліса» нечакана разгарэўся скандал. Заснавальнік яе, мільянер Герман Стэрлігаў, выступаючы па тэлеканале «Астанкіна», назваў кіраўнікоў біржы «Данецк — Аліса» «лгунамі», «п'яніцамі» і нават «ханыгамі». У самім Данецку гнеў на дваццаціпяцігадовага гаспадара буйнейшай у СНД біржавой сістэмы выкліканы тым, што пакуль ён адкрываў у ЗША свае гандлёвыя дамы, мясцовая «Аліса» дабілася поўнай незалежнасці ад маскоўскага патрона. Зараз кіраўнікі біржы «Данецк — Аліса» маюць намер падаць на Стэрлігава ў суд за фінансавыя злоўжыванні.

### ПАСОЛ — ТАКСАМА ЧАЛАВЕК

**Непрыемная навіна нечакана ўзрушыла ўрад Латвіі. У Вашынгтоне пры нявысветленых абставінах быў пабіты міністр сельскай гаспадаркі рэспублікі Дайніс Гегерс, які знаходзіўся ў ЗША па службовых справах. Паліцыя вядзе расследаванне.**

### ПАЛЯКІ — ЯНЫ І Ў ЛІТВЕ ПАЛЯКІ

Міністэрства замежных спраў Польшчы заявіла афіцыяльны пратэст Літве з прычыны таго, што яна не выканала сваіх старых абяцанняў па аднаўленню мясцовых Саветаў у Вільнюскім раёне, большасць жыхароў якога складаюць палякі. Польскі бок настроены вельмі рашуча, але літоўскія ўлады пакуль не спяшаюцца.

### ЦАРКВА ЛІДЗІРУЕ

**Згодна сацыялагічнаму апытанню, 75 працэнтаў жыхароў Літвы больш за ўсё давяраюць царкве і сродкам масавай інфармацыі, 68 — ураду, 66 — Вярхоўнаму Савету і толькі каля 30 працэнтаў — судам.**

### ЖЫВЫЯ ФАКЕЛЫ

69 выпадкаў самаспальвання жанчын зарэгістравана ў мінулым годзе ў Туркменістане. Днямі пажадала звесці рахункі з жыццём семнаццацігадовая сялянка, але яе ўдалося выратаваць. Самазабойцы — у асноўным непаўналетнія дзяўчаты — перадсмяротных запісак не пакідаюць, а тыя хто застаецца ў жывых, аб прычынах маўчаць. На думку экспертаў, самаспальванні — вынік бяспраўнага становішча жанчын ў сям'і.

## ПЫТАЛЬНІК

### Асцярожна, СНІД!

**Чуў, што Беларусь амаль лідзіруе па колькасці захворванняў на СНІД. Ці так гэта?**

**А. КУЗНЯЦОЎ.**
г. Мінск.

Сапраўды, як гэта ні жахліва, але ў краінах СНД Беларусь займае «ганаровае» трэцяе месца па колькасці ВІЧ-інфіцыраваных—амаль 80 чалавек. І гэта пры тым, што яшчэ ў 1986 годзе ў рэспубліцы не было ніводнага хворага. Затое ў 1991 годзе колькасць ахвяр гэтай хваробы перавысіла паўтара дзесятка. Дарэчы, трэба ўлічваць, што на аднаго выяўленага хворага прыпадаюць як мінімум 10 нявыяўленых. Не раз Рэспубліканскі цэнтр па прафілактыцы і барацьбе са СНІДам звяртаўся да прадпрыемстваў з просьбай унесці сродкі ў рублях і валюце на рахунак цэнтра, што дазволіла б набыць лекі, тэст-сістэмы і аказаць матэрыяльную дапамогу хворым на СНІД. Але адказу так і не дачакаўся. Па прагнозах спецыялістаў, з-за шэрагу прычын вынікі эпідэміі СНІДа могуць быць проста катастрафічнымі. А эфектыўных сродкаў лячэння пакуль што няма.

### Прыклад ёсць. Чакаем рашэння

**У нашай сям'і ёсць некалькі аблігацый дзяржаўнай унутранай пазыкі СССР 1982 года. Ваша газета паведамляла, што неўзабаве іх можна будзе прадаць. Але мінуў час, і чаго мы дачакаліся: банкаўскія аперацыі з аблігацыямі пазыкі спынены, і невядома, ці будуць адноўлены наогул...**

**Міхаіл АСТАПЕНКА.**
г. Мінск.

У Міністэрстве фінансаў рэспублікі нам растлумачылі, што такое рашэнне ўрада аб каштоўных паперах было вымушаным і неабходным. Дзесьці ў канцы студзеня хлынулі яны патокам у Беларусь з іншых рэспублік былога Саюза. Аплачваць іх пры сённяшняй нястачы грашовых сродкаў проста не было магчымасці. Так што палітыка, як спрабуе хто-ніхто сцвярджаць, тут не замешана. Ва ўрадзе зараз якраз займаюцца распрацоўкай парадку прыёму каштоўных папер у насельніцтва. Колькі часу на гэта будзе затрачана, сказаць дакладна мы не можам, але, мяркуючы па ўсім, нямнога. Прынамсі, урад Расіі ўжо вырашыў гэту праблему. Праўда, па-свойму. Там таксама ўжо спынены аперацыі па куплі-продажу аблігацый пазыкі 1982 года і аб'яўлена аб выпуску расійскай унутранай выйгрышнай пазыкі 1992 года. Грамадзяне РФ змогуць, пачынаючы з восені, абменьваць саюзныя аблігацыі на расійскія па наміналу з улікам мінулагодняй кампенсацыі.

Чым не прыклад? Магчыма, звернуць на яго ўвагу і ў Мінску.

### «Палепшым»... ваду

**Кажуць, што паліваць расаду вадою з-пад крана нельга. А як абысціся?**

**К. МУХАВЕЦ.**
г. Мінск.

У вадзе з гарадскога водаправода ўтрымліваецца хлор, які расліны ў большасці сваёй не церпяць. Ёсць і іншыя непажаданыя рэчывы.

Таму ваду трэба адстойваць на працягу двух-трох сутак. Добра будзе, калі вы папярэдне давядзеце яе да 70—90 градусаў і астудзіце. Асадак таксама не ўжывайце.

А найлепш паліваць снежнай ці дажджавой вадой.

## КАЛЯНДАР «ЗВЯЗДЫ»

2 красавіка спаўняецца 160 гадоў з дня нараджэння Паўла Осіпавіча Баброўскага (1832—1905)— гісторыка і этнографа. Ён нарадзіўся ў невялікім маёнтку Вака, што каля Вільні. Галоўная праца, якая зрабіла Баброўскага вядомым, — грунтоўнае даследаванне «Матэрыялы для геаграфіі і статыстыкі Расіі, сабраныя афіцэрамі Генеральнага штаба: Гродзенская губерня (ч. 1—2. Спб., 1863)», дзе даецца апісанне жылля і гаспадарчых пабудоў, адзення і страў, рэчаў хатняга і сямейнага ўжытку, вераванняў, абрадаў і звычаяў, вытворчай дзейнасці беларусаў, прыводзяцца звесткі пра матэрыяльнае становішча і класавую дыферэнцыяцыю беларускай вёскі.

ХТО ЁСЦЬ ХТО

# Згода, але не згодніцтва

**Гэтае слова — згода — даўно пануе ў нашых настроях і розумах, да гэтай ідэі людзі звяртаюцца, як да апошняй надзеі на стабілізацыю палітычнай, эканамічнай сітуацыі. Зараз пра сябе ўсё актыўней заяўляе сіла, што ўзяла гэтае слова ў найменне палітычнага руху — Партыя народнай згоды, якая праходзіць зараз стадыю арганізацыйнага афармлення. Якое слова ні вазьмі — гучыць даволі моцна. Што ж за словамі!**

**Пра гэта вядуць гаворку члены арганізацыйнага камітэта партыі Аляксей КАРОЛЬ і Леанід ЛОЙКА.**

**Кароль:** Імкненне жыць у згодзе, дабром і ладам, з даўніх часоў вызначала духоўнае ў чалавеку, у грамадстве. І ніколі сацыяльныя катаклізмы, бескампрамісная палітычная барацьба на знішчэнне праціўніка, нават калі перамога была поўнай, не спрыялі паляпшэнню дабрабыту, маральнаму здароўю нацыі. Імкненне жыць у згодзе, цярпімасці, талерантнасць — у характары беларусаў, у традыцыі гістарычнага існавання беларускага народа. Сацыяльныя канфлікты, што бушавалі навокал, на тэрыторыі Беларусі былі аслабленымі ці нават наогул не мелі водгуку. І гэта таксама добрая падстава для ўзаемаразумення, добразычлівага суіснавання ўсіх людзей Беларусі. Не трэба толькі наўмысна раздзімаць іскры пажару, падштурхоўваць развіццё падзей у той бок і да той рысы, за якой — выбух, а згода ўжо немагчыма.

**Лойка:** Згода ў нашым разуменні — гэта нацыянальная ідэя для Беларусі. Згода перш за ўсё для розных колаў і груп насельніцтва — усіх, хто складае народ. Перш за ўсё — згода на рэформы як проціпастаўленне рэвалюцыі і бунту.

**— Пра згоду нярэдка заяўляюць розныя палітычныя сілы, каб напрацаваць пэўныя сімпатыі ў насельніцтва Беларусі, паабяцаўшы спакутаванаму люду абарону ад таго, чаго ён больш за ўсё баіцца: палітычных міжусобіц, спрэчак, боек... Цярпець у любым выпадку давядзецца яму, чалавеку, што мусіць везці на сваёй спіне палітыкаў. Вось і заяўляюць аб згодзе ўсемагчымыя блокі — «Новая Беларусь», «Беларусь», ХДЗ-БСП-НДПБ, ваша партыя...**

**Лойка:** Мы вылучаем ідэю народнай, нацыянальнай згоды як накірунак грамадскага развіцця нашай рэспублікі. Той ці іншы палітык, тая ці іншая партыя будуць самі дастасоўвацца да гэтай ідэі — нехта прыме, нехта не прыме: кожны адказвае за свае крокі сам.

**Кароль:** Згода не ўсіх з усімі — гэта было б утопіяй. Гэта немагчыма ні на ўзроўні міжасобасных, ні на ўзроўні міжпартыйных адносін. Немагчыма, напрыклад, згода чалавека сумленнага са злачынцам. Але ж і няма такіх праблем, па якіх не маглі б дамовіцца, пры добрай на тое волі, людзі сумленныя. Гэтак жа і сумленныя палітыкі, партыі. Згода перш за ўсё з тымі, хто падзяляе ідэю рэформ. З тымі палітычнымі сіламі, якія, напрыклад, мараць пра ўзнаўленне ранейшых парадкаў (а апошняга можна дасягнуць зараз толькі сілай) — згоды быць не можа. Разумны сэнс, калі хочаце, прагматызм, — вось словы, якія выразна акрэсліваюць параметры тых палітычных сіл, з якімі можна весці дыялог, разам шукаць выйсця з крызісу, выпрацоўваць і праводзіць у жыццё адпаведную праграму дзеяння. Гэта не выключае спрэчак, крытыкі, сутыкнення пазіцый. Добра, што так думаем не толькі мы. Ужо ёсць першыя кантакты. Ёсць прапановы некаторых партый аб правядзенні перагавораў на аснове нашых ідэй аб блакіроўцы сіл па канкрэтных пытаннях правядзення рэформ.

**Лойка:** Галоўнае, каб была згода самога народа на гэтыя рэформы, бо нельга ўявіць сабе, каб усе згадзіліся стыхійна з любой формай рэформ альбо з іх адсутнасцю. Скажам, рэформы аб пераходзе да рынку не ўсім падабаюцца. Урад павінен прапанаваць народу такі накірунак рэформ, каб ён згадзіўся пацярпець,але каб людзі рэальна бачылі, што цярпець яны будуць недарма і не бясконца, рэформы дадуць станоўчыя вынікі, і не ў аддаленай будучыні, а хутка. Каб большасць падтрымала праграму рэформ. Тады будзе згода.

**— Гаворка, такім чынам, не столькі пра згоду палітыкаў дзеля нейкіх сваіх мэт, колькі пра выпрацоўку гэтымі палітыкамі праграмы, якая магла б авансаваць людскую згоду на руплівасць, на цярплівую працу, што ў рэшце рэшт акупіцца дастойным жыццём...**

**Лойка:** Другі варыянт — палітычная канфрантацыя, і нават рэвалюцыя, контррэвалюцыя.... З гісторыі вядома, што гэта нічога добрага людзям не нясе. Таму мы гатовы далучыцца да любых яднанняў, дзе будзе дамінаваць ідэя згоды ў імя хуткіх і энергічных перамен, не прэтэндуючы на тое, каб нашы прапановы былі вядучымі.

Галоўнае, каб усе ўсвядомілі, што наперадзе перад Беларуссю перыяд найцяжэйшых эканамічных выпрабаванняў. А ў выпадку палітычных навальніц нельга выключыць і пагрозу суверэнітэту, незалежнасці краіны. Вытрымаць, пераадолець перашкоды мы можам толькі асэнсаваўшы, што мы адзіны народ.

**Кароль:** Уласна кажучы, гэтая ідэя чуецца паўсюдна — у чэргах, у перапоўненым транспарце: кінулі б яны спрэчкі аб сваіх палітычных праблемах, а ўзяліся б дружна найперш за эканоміку, бо інačай дрэнна будзе і тым, і другім. Трэба часова забыцца на ідэйныя, палітычныя і іншыя разыходжанні. Эканоміка сама па сабе — не ідэалагізаваная.

**Лойка:** Яна дзейнічае па універсальных законах, і самае разумнае — аб'яднацца на аснове гэтых законаў.

**— Ідэя «круглага стала», з якой насіліся (на словах) яшчэ камуністы і якая ў краінах Усходняй Еўропы не дала ніякага плёну, — не новая, калі не сказаць больш...**

**Кароль:** Яна дала плён. І вялікі. «Круглыя сталы» абумовілі мірны пераход да рэформ, знялі пагрозу грамадзянскай вайны. У нас, аднак, некалькі іншая абстаноўка, чым у краінах Усходняй Еўропы. Там з «круглых сталоў» нараджаліся партыі, скіраваныя на процідзеянне існуючым структурам улады. У нас жа няхай слабыя, няхай малалікія, не надта ўплывовыя, але ёсць партыі. Мы прапануем пачаць перагаворы ужо існуючым палітычным сілам — разам з дэпутатамі рознай накіраванасці, разам з прафсаюзамі, грамадскімі рухамі і арганізацыямі. І такі варыянт, на наш погляд, зусім рэальны.

**— Тая праграмная заява, што была не так даўно надрукавана ў нашай газеце, дае даволі грунтоўнае ўяўленне пра асноўныя накірункі прапануемых вамі рэформ. Але ці не здаецца вам, што некаторыя з іх заснаваны на папулізме — раздаць усім зямельныя ўчасткі, іншае...**

**Кароль:** Гледзячы як разумець папулізм. Калі гэта нейкія невыканальныя абяцанні, якія даюцца дзеля заваявання палітычных сімпатый, то такое, вядома ж, недапушчальна. Мы вельмі ўважліва аналізавалі кожны пункт, каб туды не трапілі недасягальныя вышыні.

**Лойка:** У заяве падкрэсліваецца, што гэта задачы сённяшняга дня, не стратэгічная лінія, а неадкладныя крокі. Мы хацелі толькі паказаць, што ёсць простыя рэчы, якія можна было б яшчэ ўчора зрабіць, але яны — не робяцца.

**— Чаму?**

**Лойка:** Таму што ўрад няздольны на рашучыя крокі. Мяняць яго трэба неадкладна, і тут мы разыходзімся нават з БНФ.

**— Фронт таксама, здаецца, не надта вітае сённяшні ўрад...**

**Лойка:** Сёння іх намаганні скіраваны перш за ўсё на перавыбары парламента, на ўзяцце ўлады. Гаворка, такім чынам, ідзе пра новую рэвалюцыю. А мы лічым, што парламент трэба рэфармаваць, і прапануем аказваць на яго грамадскі націск. А дзяржавай кіруе, як вядома, урад. У дэмакратычнай краіне ўрад можна мяняць, і ён мяняецца на працягу паўнамоцтваў парламента некалькі разоў. У нас гэта магчымасць не выкарыстана. Калі наш парламент здзейсніў гістарычнай важкасці змены ў жыўні, значыць, у яго ёсць патэнцыял.

**— Ёсць і такое меркаванне: тыя жніўеньскія дзеянні парламента былі ў нейкай ступені змушанымі, прыстасавальніцкімі...**

**Лойка:** Згодзен, але ўсё ж яны зроблены.

**— Выходзіць, урад — камуністычны, а парламент — не?**

**Лойка:** Хутчэй да абодвух вельмі падыходзіць вызначэнне «бюракратычны», і ўрада яно датычыцца ў большай ступені. Ён фарміраваўся нават не сённяшнім парламентам, а ў значнай ступені яшчэ бюро ЦК КПБ. Савет Міністраў — гэта іерархічная лесвіца чыноўнікаў (Старшыня, Прэзідыум, кіраўніцтва справамі — а дзе ж сам урад?). **Кааліцыйны ўрад павінен ўвасабляць вынік згоды на рэформы большасці парламентарыяў і палітычных колаў нашай краіны.** Кожны міністр там будзе прадстаўляць альбо дэпутацкую фракцыю, альбо палітычны рух і абавязкова — нейкую частку насельніцтва з яе настроямі і пажаданнямі. Кожнае рашэнне ўрада, прынятае рашаючай большасцю яго членаў — інačай нельга — будзе чарговым крокам на шляху згоды, на шляху выйсця з багны крызісу. І нават непапулярныя меры такога ўрада могуць апірацца на значны запас народнага даверу.

**— Зноў ідзяце ўслед за ідэямі Народнага фронта?**

**Лойка:** Для іх урад народнага даверу — гэта бэнээфаўскі ўрад, што далёка не адно і тое ж. Але сёння людзі наўрад ці падтрымаюць такі ўрад — палітра палітычных сімпатый грамадства куды больш багатая. Вось яе і павінен адлюстроўваць шырокі кааліцыйны ўрад з новых, свежых сіл, не карумпіраваных, не звязаных кругавой парукай.

**Кароль:** Па-мойму, нямала дастойных людзей знойдзецца і ў старых структурах — калі мы будзем іх адхіляць, то выйдзем за рамкі свайго тэзіса аб згодзе.

Заўсёднае пытанне ўсіх рэвалюцый і буйных рэфармацый: што рабіць з былымі? Забарона на прафесіі, праследаванні, рэпрэсіі — адзін шлях. Мы яго праходзілі ўжо. Зачыніць дзверы за мінулым, даць усім увайсці ў новы лад жыцця, працаваць і спакойна жыць — другі. І ён на карысць грамадству. Не ідэалогія як крытэрый, а прафесіянальная кампетэнтнасць.

**— Як яе вызначыць?**

**Лойка:** А гэта ўжо іншае пытанне. Механізм будзе выпрацоўвацца сумесна. Зараз жа галоўнае: **палітычны форум, правядзенне ў той або іншай форме шырокіх кансультацый і дыскусій, а ў іх выніку — згода. У выніку згоды — кааліцыйны ўрад з ужо гатовым пакетам рэформ.** Вось простая, але надзейная формула.

Прапанаваць яе мог бы і парламент, але ён пакуль што не робіць гэтага.

**Кароль:** Ведаеце, у Беларусі склалася унікальная палітычная сітуацыя. Калі ў Расіі да ўлады прыйшла былая дэмакратычная апазіцыя, то ў нас апазіцыя ўладай не стала. Ранейшая наменклатура, што страціла ўладныя функцыі, не стала апазіцыяй. Калі ў Расіі на сітуацыю, на ўрад уздзейнічаюць групы націску — старога і новага тыпу, то ў нас і такія групы дастаткова размытыя, слабыя. А пры адсутнасці элементаў спаборнасці — застой. Вось мы і прапануем дэмакратычную форму націску на ўладныя структуры на аснове згоды палітычных сіл. Адмова ад ідэі нацыянальнай згоды перашкодзіць выкарыстаць шанц хуткага выпраўлення становішча. Тут нельга кіравацца эмоцыямі, амбіцыямі — крызіс загубіць усіх. Не павінна быць палітыкі рэзкай канфрантацыі з уладамі, якая вызначае сёння пэўныя сілы. Мы мусім выкарыстоўваць тыя магчымасці, якія пакуль што ёсць.

### ВЫБАР

**Не думалі, напэўна, класікі марксізму - ленінізму, што настане такі час, калі значную колькасць іх твораў вынесуць з кнігарні па прычыне поўнай адсутнасці попыту на іх. Змыюць шматгадовы пыл з паліц, кнігі расставяць больш свабодна, а на самае пачэснае месца зноў паставяць Біблію.**

**Магчыма, у кожным канкрэтным выпадку ўсё адбывалася не зусім так, але вынік паўсюдна назіраўся адзін і той жа: страціўшы надзею ўбачыць друкаванае слова, людзі нарэшце атрымалі права на выбар і многія зноў узялі ў рукі Біблію— кнігу ўсіх краін і народаў.**

**Уваходзіш у кніжны магазін № 35 па вуліцы Прытыцкага — і адразу бачыш дрыготкі агеньчык лампады. Запалена яна пад іконай ўсіх беларускіх святых. Невыпадкова тут гэтая ікона: на ёй разам з іншымі постаці сусветна вядомых асветнікаў— Кірылы Тураўскага і Ефрасінні Полацкай. Тут размясціўся аддзел праваслаўнай кнігі.**

**Таццяна Герман працуе дырэктарам магазіна, але ў адносінах да гэтага аддзела яна праявіла сябе і арганізатарам, і забеспячэнцам. Наладжвала кантакты з многімі ўстановамі Масквы, Калугі, Смаленска, Санкт-Пецярбурга. Значную дапамогу і падтрымку атрымала ад Мінскай епархіі.**

**— Сёння ўсе мы настолькі духоўна бедныя, што адраджэнне ў гэтым кірунку трэба пачынаць з самага простага, агульнадаступнага, — дзеліцца сваімі думкамі Таццяна Герман. — З гэтай мэтай мы назапасілі літаратуру для дзяцей і дарослых, жадаючых пазнаёміцца з асновамі рэлігіі, кароткія тлумачэнні ўсіх службаў праваслаўнага храма. Ёсць у нас разнастайныя паштоўкі да Вялікадня, дня анёла, мноства ікон, паасобна надрукаваных малітваў на выпадак уваходзін у новы дом. Нядаўна паступіла ў продаж Біблія ў двух тамах, аформленая сусветна вядомымі гравюрамі Дарэ — гэта зацікавіць і аматараў выяўленчага мастацтва. Ёсць у нас і Святое Евангелле ў перакладзе на беларускую мову. За прылаўкам новага аддзела ахвотна працуе маладая прадаўшчыца Вольга Лаханько, якая здольна адказаць на пытанні пакупнікоў аб прызначэнні ікон, змесце кніг.**

**Мы першымі ў рэспубліцы стварылі такі аддзел і за нядоўгі час яго існавання пераканаліся ў неабходнасці і карысці нашай працы. Частка прыбытку, які дае наш магазін, ідзе ў фонд пабудовы ў гэтым жа раёне горада новага праваслаўнага храма.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: прадавец Вольга ЛАХАНЬКО; гарыць, не гасне лампада; у аддзеле праваслаўнай літаратуры.**

ПІСЬМО З КАМЕНТАРЫЕМ

## «Каб людзі ўзялі ў рукі рыдлёўкі, а не што іншае...»

*Тры месяцы затраціў на тое, каб займець для сваіх супрацоўнікаў пад садова-агароднае таварыства 6 га зямлі. Урэшце ўсё як быццам вырашалася станоўча ў Ляхавіцкім раёне. З калгасам заключылі ўзаемавыгадны дагавор: ён нам выдзеліць зямлю, мы яму акажам паслугі з матэрыялаў фонду мінулага года. Паставілі подпісы, пячаткі. Сельсавет выносіць пастанову. І раптам — адбой. Як кажуць, я не я, і кабыла не мая... Я да старшыні: «У чым справа, што здарылася?». «Мае людзі не хочуць», — адказвае ён. І савецкая ўлада нічога зрабіць не можа.*

*У свой час у нас адабралі ад 2—3 да 5—10 гектараў крывёю і потам продкаў палітай зямлі. Задарма. І каня з возам-санямі, плугам-бараною і ўсімі прычындаламі, і гумно. Таксама задарма. І прымусілі працаваць за 100 грамаў збожжа, а то і без іх. І пабеглі мы з зямлі продкаў шукаць лепшай долі. А цяпер не можам выпрасіць у «гаспадароў» 10—15 сотак. Не патрабуем СВАЕ гектары — нейкія соткі! Без «анексій і кантрыбуцый». Бо надзеі на тое, што «гаспадары» ці дзяржава нас пракормяць, — аніякай. І на «гуманітарную» не разлічваем. Мы — не калекі і не жабракі. Тысячу разоў мае рацыю Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч, гаворачы, што нельга так зневажаць свой народ. І калі на 4—6 сотках людзі яшчэ і курэй, і трусоў трымаюць, то на 15-ці — можна і парсючка. А «мае» пагаворваюць ужо і пра «калектыўную» каройку на двух-трох. Толькі вось усё марна...*

*На маю думку, для таго, каб забяспечыць усіх жадаючых зямлёю ў Баранавічах, трэба расфарміраваць 3—4 гаспадаркі. Я не лічу, што трэба разганяць калгасы. Калі ўжо на тое пайшло, няхай ціха паміраюць сваёй смерцю (а мо, хто і выжыве...). Але, каб людзі ўзялі ў рукі рыдлёўкі (а не што іншае) і хоць у малой меры—сваю долю, дайце ім, паважаныя, зямлю. Падкрэслю: не балота, не кар'ер—зямлю! Ды каб і праезд быў зручны, і недалёка было. І дапамагчы ім трэба насеннем, угнаеннямі па боскіх цэнах.*

*І зрабіць гэта трэба як мага хутчэй. Сеяць пара!*

**Віталь КАМІНСКІ,**
**кіраўнік спецыялізаванага будаўніча-мантажнага ўпраўлення № 2 трэста «Прамбурвод».**
г. Баранавічы.

## А вяскоўцаў спыталі?

Вось такі неардынарны ліст. Што тут можна сказаць, параіць, чым дапамагчы? Першнаперш застаецца толькі паспачуваць Віталю Аляксеевічу ў тым, што яго добрая задума, усе намаганні зрабіць для сваіх падначаленых карысную справу аказаліся дарэмнымі.

А здавалася б, усё складвалася як належыць. Больш таго, нават неабходныя дакументы былі падпісаны і пячаткамі змацаваны. Ды і мясцовы Навасёлкаўскі сельсавет не пярэчыў — даў згоду. Была і пэўная дамоўленасць: калгас выдзеліць зямлю не за прыгожыя вочы, а на ўзаемавыгаднай аснове, па бартэрнай здзелцы.

Чаму ж тады гэта, на першы погляд няблага сплanаванае і падрыхтаванае мерапрыемства пацярпела няўдачу? У чым тут асноўная прычына? У пісьме і ў час тэлефоннай размовы В. Камінскі ўсю віну ўсклаў на старшыню: «Застаецца толькі гадаць, якая муха яго ўкусіла(ці папера, званок)? Маўляў, гэта ўжо стэрэатып: хачу — дам, не хачу — не дам. І ніхто нічога не зробіць, не загадае. Нават савецкая ўлада.

Ці так гэта? Звязваюся па тэлефоне са старшынёй калгаса «Адахаўшчына» В. Жуком.

— Ды ніякія гэта мае не капрызы, — адразу адвёў абвінавачанні Васіль Рыгоравіч.— Я, наадварот, спачатку быў за тое, каб даць зямлю. І на праўленні гэта падтрымалі. А вось калі вынеслі пытанне на агульны сход, калгаснікі выказаліся супраць. Якія іх аргументы? У калгасе няма лішняй зямлі.

Сапраўды, як пацвердзіў мой субяседнік, «Адахаўшчына»— маленькая гаспадарка: у ёй усяго 560 гектараў ворнай зямлі. Так што кожная сотка, любы лапік на ўліку. Нават тым, хто прыбывае сюды на работу і хоча пасяліцца, цяжка знайсці ўчастак для забудовы. І старшыня даў такую параду сваім няўдачлівым партнёрам: іх кантора знаходзіцца у Баранавічах — вось няхай яны і шукаюць сабе зямлю не ў Ляхавіцкім, а ў Баранавіцкім раёне.

Стоп! Як кажуць, ловім на слове. Дазвольце, паважаны Васіль Рыгоравіч, спытаць: навошта тады было плот гарадзіць? Хто-хто, а вы, як кіраўнік, не маглі не ведаць, што ў гаспадарцы мала гэтай самай зямелькі, якой для ўласных патрэб не хапае, а не тое, каб раздаваць яе направа-налева.

Далей. Чаму ўсе гэтыя працяглыя перагаворы аб дагаворы вяліся з тым жа В. Камінскім, праўленцамі, з сельсаветам, і ў той жа час ніхто ні разу не пацікавіўся, не спытаў аб гэтым саміх калгаснікаў? Хутчэй за ўсё спрацаваў заганны стэрэатып-шаблон: не палічылі мэтазгодным. Ды толькі аджыў (і, будзем спадзявацца, назаўсёды) ён свой век. Менавіта яны, вяскоўцы, якія жывуць на гэтай зямлі, працуюць-абрабляюць яе, з'яўляюцца і найпершымі тут гаспадарамі. А таму ім належыць і рашаючае слова аб лёсе сваёй карміцелькі. І калгаснікі «Адахаўшчыны» выкарысталі такое права.

Давялося мне пагутарыць (таксама па тэлефоне) і са старшынёй Ляхавіцкага райвыканкома В. Сапуном.

— Згодзен, выпадак, што адбыўся ў «Адахаўшчыне»,— непрыглядны,— сказаў Валянцін Барысавіч.— Так, Камінскі да мяне звяртаўся за дапамогай. І я спрабаваў, як гаворыцца, «ціснуць» на старшыню, паўплываць, але ўсё безвынікова. Калгаснікі на агульным сходзе вынеслі сваё рашэнне, і з ім трэба змірыцца. Да таго ж ёсць Зямельны кодэкс рэспублікі, і парушаць яго нікому не дазволена.

— Але баранавіцкія садаводы-аматары засталіся без надзелаў, хоць яны таксама маюць на іх права. Ці не так?

— А мы ім і не адмаўлялі,— адказвае В. Сапун.— Прапаноўвалі са свайго запасу. Але Камінскі патрабаваў толькі ворную зямлю, і прытым непадалёк ад Баранавіч. На тым і разышліся...

Безумоўна, шкада, што такім сумным атрымаўся фініш гэтай, прама скажам, непрыемнай гісторыі. Але, як лічыць Віталь Аляксеевіч, на сённяшні дзень гэтае пытанне, на якім ён спатыкнуўся, для гараджан з'яўляецца асабліва жыццёва важным набалелым. Яны хочуць мець участкі, каб вырошчваць на іх бульбу, агародніну, садавіну.

— Натуральна,— заявіў нядаўна на прэс-канферэнцыі міністр сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Ф. Мірачыцкі,—усе хочуць атрымаць зямлю. Прытым непадалёк ад горада і побач з чыгункай, каб можна было даехаць электрычкай.

Аднак менавіта на такіх умовах задаволіць просьбу ўсіх жадаючых нельга. На гэтыя мэты ў рэспубліцы выдзелена 350 тысяч гектараў. Аднак з іх амаль 200 тысяч не асвойваюцца. Прычыны вядомыя — забалочаныя землі, няўдобіцы, аддаленасць, дрэнныя пад'езды ці ўвогуле адсутнасць дарог, нявырашаныя транспартныя пытанні.

Скажам, шмат такіх закінутых угоддзяў пустуюць вакол Мінска. На іх аднаўленне, прывядзенне ў належны стан у гарвыканком паступіла 500 мільёнаў рублёў. Гэтыя сродкі выдаткавалі на якія хочаш мэты, але толькі не на прывядзенне зямлі ў парадак і не на забеспячэнне гараджан садова-агароднымі ўчасткамі.

Так, сёння, у час вострага дэфіцыту прадуктаў харчавання і дзікіх магазінных і рыначных на іх цэн, зямля-карміцелька як паветра аднолькава неабходна і селяніну, і жыхару горада. Аднак вырашаць гэтае жыццёва важнае і складанае пытанне ў кожным выпадку варта ў адпаведнасці з заканадаўствам, справядліва з абавязковым улікам думак вяскоўцаў. Інакш у далейшым без непаразуменняў, канфліктаў і нават сутычак, якія абсалютна нікому не патрэбны, не абысціся.

**Іван БРАЛКА,**
**загадчык аддзела пісьмаў «Звязды».**

ГІСТОРЫЯ БЕЗ «БЕЛЫХ ПЛЯМ»

# Апакаліпсіс-42,
## або Трагедыя на Дубравенцы ў Магілёве

**Паважаная рэдакцыя!**

**Прачытаў у «Звяздзе» артыкул «Апакаліпсіс» і вырашыў напісаць пра вельмі падобную, але малавядомую за межамі нашага горада трагедыю ў акупіраваным Магілёве. Сам я, зразумела, не быў яе сведкам, але з дзяцінства шмат чуў пра гэта. Мяркую, гэты расказ зацікавіць і газету, і яе чытачоў.**

Сёлета, 10 красавіка, спаўняецца роўна паўстагоддзя, як Магілёў і тысячы яго жыхароў напаткала страшэнная бяда, сведкі якой і сёння жывуць у нашым горадзе. Усё гэта адбылося ў даліне ракі Дубравенкі, 18-кіламетровага правага прытоку Дняпра, які працякае праз цэнтр горада, абмяжоўваючы яго з захаду, і перасякае, разам з высокімі пагоркамі і глыбокімі ярамі, здаўна забудаваны раён, што размясціўся па абодвух берагах і недзе з XVI—XVII стст. меў Віленскае і Задубравенскае прадмесці.

...Гісторыя сведчыць, што ў пачатку нашага стагоддзя на колішняй ускраіне побач з драўлянай Карабанаўкай (месцілася яна ў асноўным на ўзвышшы) праз Дубравенскі яр высока над ракой пабудавалі чыгуначны мост, апоры якога былі з бутавага каменю, а фермы — металічныя. Менавіта сёлета спаўняецца 90 гадоў, як праз Магілёў пралегла чыгунка Пецярбург — Адэса. Мост, аднак, прастаяў нядоўга.

Чаму? Ужо ў 1930 годзе горад стаў чыгуначным вузлом. Праз яго з усходу на захад (ці наадварот) праклалі рэйкі на Крычаў і Асіповічы. У выніку частка другой каляіны пралегла паралельна першай. Аднакалейны мост дэманціравалі, бо яшчэ раней побач з ім з'явіўся высачэзны насып на дзве каляіны, вышыня якога дасягала 15 метраў. Такім чынам, Дубравенка пацякла пад ім праз даволі шырокую бетонную арку.

Дык вось, магчыма, у час абароны Магілёва летам 1941 года гэтая арка была пашкоджана (хоць рух паяздоў не спыняўся), магчыма, яна забілася смеццем, рознымі іншымі адходамі горада, а магчыма, змерзліся сумёты ды лёд у час суровай першай ваеннай зімы. Усё магчыма, аднак адказаў на гэтыя пытанні і сёння няма. Ёсць факты. І яны вельмі-вельмі сумныя. Але перш за ўсё трэба сказаць, што вышэй насыпу на Дубравенцы з даўніх часоў яшчэ была і запруда, так званае Карабанаўскае возера, якое знаходзілася, лічы, амаль у горадзе.

Вясной, калі пачаў таяць снег і вада пайшла па Дубравенцы (у яе звычайна імклівы і вірлівы паводкавы сцёк, бо плошча вадазбору складае 56 кв. км), выявілася, што яна амаль не прасочваецца пад аркай, а збіраецца ля насыпу, які ў гэтым выпадку ператварыўся ў вялікую плаціну. Мясцовыя жыхары, хто і бачыў, зрабіць нічога не маглі, ды і іншых спраў-клопатаў хапала. Немцы, акупанты, кажуць, нешта спрабавалі зрабіць, корпаліся там, але ўсё аказалася марным. Калодзежы, адтуліны, небяспечныя, на іх погляд, месцы быццам забілі дошкамі. Толькі гэта, як кажуць, не магло прадухіліць трагедыі.

І вось калі побач з насыпам, упоравень з чыгункай, набраліся тысячы і тысячы кубаметраў вады, гэтая імправізаваная плаціна не вытрымала. Яе прарвала. Страшэнны вал, паводле расказаў сведак, вышынёй 4—6 метраў, а мо і больш, абрынуўся і пакаціўся па вялікаму Дубравенскаму яру. Ён падхопліваў людзей, свойскую жывёлу, дзесяткі дамоў, гаспадарчыя пабудовы. За лічаныя імгненні страшэнная хваля прабегла да Дняпра (а гэта каля трох кіламетраў) і пакінула за сабой жудасную пустыню. Расказваюць, што былі знесены аднапавярховая каменная лазня разам з людзьмі, што мыліся ў гэты час, пабудовы Быхаўскага базару з гандлярамі і пакупнікамі (быў базарны дзень), жалезабетонны мост цераз Дубравенку разам з нямецкай машынай і шмат чаго іншага. А яшчэ (і смех, і грэх!) на правым беразе змыла каменную яўрэйскую сінагогу, якую фашысты, выгнаўшы святароў і вернікаў у гета па суседству, пераабсталёўвалі пад публічны дом для сваіх ваякаў. Відаць, аб тым, каб ліквідаваць гэты неадкрыты бардэль, паклапаціўся яўрэйскі бог...

Шмат часу гэтая катастрофа, пра якую, акрамя сведак, ведаюць некалькі пакаленняў магілёўчан, замоўчвалася. Колькасць ахвяр і матэрыяльны ўрон невядомыя. Толькі ў кнізе групы аўтараў «Магілёў» (Мінск, 1959 г.) гэтай паводцы былі прысвечаны... чатыры радкі, якія сцвярджалі, што было разбурана больш за 100 дамоў, каля 150 сем'яў страцілі дах над галавой. Віна, зразумела, ускладвалася на немцаў. Хутчэй за ўсё так і ёсць. Хоць, безумоўна, папярэдзіць бяду маглі, бо загінулі і нашы людзі, і захопнікі. Скажам, пры паводках на Дняпры ў пасляваенныя гады абавязкова ствараліся спецыяльныя гарадскія камісіі, людзей загадзя адсялялі з зоны затаплення, вывозілі маёмасць, прымаліся іншыя неабходныя меры.

Магчыма, толькі дзе-небудзь у нямецкіх дакументах можна штосьці знайсці пра тое здарэнне на Дубравенцы. У нас жа акрамя тых вышэй прыгаданых радкоў нічога адшукаць не ўдалося. Мабыць, у сувязі з нядобрай традыцыяй замоўчваць усё, што звязана з гадамі акупацыі, акружэнняў. Вось і Магілёў, абаронцы якога ў 41-м амаль месяц вялі жорсткія баі, так і не стаў горадам-героем, бо змагаўся ў поўным акружэнні.

**Мікалай НОЖНІКАЎ.**
г. Магілёў.

# РОЗГАЛАС

## СЛУЖБА-01

### У ЧАКАННІ «ЧЫРВОНАГА ПЕЎНЯ»

Што такое магазін для сельскага жыхара, тлумачыць, напэўна, не трэба. Калі няма яго ў вёсцы — тут хоць крыкам крычы: нават за хлебам у суседні населены пункт трэба ісці. Змірыцца з гэтым яшчэ неяк можна, калі гандлёвай кропкі зусім не было. А калі ўчора ты пераступаў парог магазіна ў сваёй вёсцы, а сёння тое памяшканне нібы карова языком злізала? Застаўся, як кажуць, адзін успамін — абгарэлыя бярвёны...

Вось і нядаўна тэлетайп прынёс такую вестку з Барысаўскага раёна. Там «чырвоны певень» наведаўся ў магазін вёскі Вераскі.

Гараць часцей за ўсё сельскія магазіны. І гэта не выпадкова, бо на многіх такіх аб'ектах не выконваюцца мерапрыемствы проціпажарнага характару. Перш за ўсё, шмат недахопаў у электрагаспадарцы: у складскіх памяшканнях, напрыклад, нярэдка пад электрашчытамі захоўваюцца тавары, на электралямпачках не заўсёды ёсць ахоўныя плафоны, электраправодка доўгі час не мяняецца.

Многія сельскія магазіны абсталяваны печамі. Толькі не заўсёды да пачатку ацяпляльнага сезона яны рамантуюцца. Пры іх эксплуатацыі дапускаецца шмат адступленняў ад проціпажарных норм. У многіх магазінах вадзяное ацяпленне, але нярэдка месца ўстаноўкі катлоў не ізалявана проціпажарнымі сценамі.

Засмучае і тое, што многія работнікі магазінаў не маюць самых элементарных проціпажарных ведаў. Часам нават не ведаюць, як выклікаць пажарную дапамогу, як карыстацца вогнетушыцелем. А пры папярэджанні пажараў дробязей не бывае.

**Васіль БАГАМ'Я, галоўны спецыяліст упраўлення пажарнай бяспекі МУС РБ.**

### ТАЙФУН ПРАНЁССЯ

**СВЕТЛАГОРСК. Калі жыхары вёскі Стужкі прачнуліся раніцай 28 сакавіка, то ўбачылі на вуліцы такі пагром, нібы тайфун «пагуляў»: былі павалены многія дрэвы, пашкоджана электрычная праводка, а з некаторых дамоў і хлявоў сарваны дахі. Вынікі бедства зараз ліквідуюцца, для чаго з горада на дапамогу адпраўлена група будаўнікоў БУ-257 дваццатага трэста.**



Мал. Алега ШАВЕЛЯ.

### РАСПЕРАЗАЛІСЯ...

ГОМЕЛЬ. Менавіта так можна ахарактарызаваць гэтыя факты.

Нідзе не працуючы Л. Дзядуля вырашыў украсці тэлевізар — дзе б вы думалі?— у апорным пункце аховы правапарадку аддзела ўнутраных спраў Савецкага райвыканкома. Для чаго ўзламаў уваходныя дзверы і зрабіў сваю чорную справу. Праўда, вельмі хутка быў затрыманы.

А вось навучэнец СПТВ-30 А. Лавец на папераджальны стрэл старшага сяржанта В. Чалава не адрэагаваў і працягваў уцёкі пасля таго, як у тры гадзіны ночы спрабаваў абрабаваць відэасалон кінатэатра «Спартак». Памятаючы, што гэта ўжо трэцяя спроба ачысціць ачаг культуры, міліцыянер параніў рабаўніка ў нагу. Яго дзеянні пракуратура прызнала правамернымі, а ў адносінах да Лаўца сваё слова скажа суд.

### Раней—золата, брыльянты, цяпер—куры і кансервы...

**Чаго толькі не крадуць у апошні час! Вось няпоўны пералік «нетрадыцыйных» краж з хлявоў, падвалаў і гаражоў мінчан за апошнія выхадныя дні: 11 курэй (перапілаваны замок хлява), інструмент і 25 раней ношаных рэчаў (узламаны дзверы падвала), акумулятар, аўтамабільны радыёпрыёмнік і колы (разабраны дах гаража), 12 аркушаў аконнага шкла і 2 карнізы (узламаны дзверы хлява), веласіпед «Салют» (сарваны замок з хлява), мапед «Рыга-36» (зноў сарваны замок з хлява)...**

**На жаль, гэта толькі невялікая частка прыкладаў. І ўсе яны гавораць аб тым, што сёння аб'ектамі злачынстваў усё часцей становяцца падвалы, хлявы і гаражы.**

**С. РАЧЫЛА.**

### Са зброяй больш надзейна?

У Зэльве быў затрыманы ўладальнік «Жыгулёў» у нецвярозым стане. Ім аказаўся мясцовы жыхар В., які займаецца індывідуальнай працоўнай дзейнасцю ў Мінску. Пры правядзенні дазнання ў яго была знойдзена кабура пісталета (аб наяўнасці зброі можна толькі здагадвацца). Здавальняючых тлумачэнняў па гэтаму факту грамадзянін В. не даў, таму ў яго мінскай кватэры быў зроблены вобыск, у выніку якога знайшлі дробнакаліберную вінтоўку, патроны да яе, а таксама пачкі патронаў да паляўнічага ружжа.

Для якіх мэт ён трымаў гэтыя «цацкі» і дзе набыў, — невядома. Кропкі над «і» расставіць суд. Але, здаецца, што гандаль зброяй становіцца нормай.

## ● РАДЫЁПЕРАХВАТ

РАДЫЁ ПЕРАХВАТ

### РАДЫЁ «СВАБОДА»

* Шэраг краін Усходняй Еўропы звярнуліся да Захаду з просьбай дапамагчы ім абараніць сябе ад небяспекі. Прадстаўнік Венгрыі заявіў, што падзеі ў СНД і Югаславіі ўяўляюць пагрозу іншым краінам.

* **Кіраўнік дэпартамента аховы краю Літвы Буткявічус ад імя трох прыбалтыйскіх дзяржаў заклікаў Заходнееўрапейскі саюз аказаць націск на Расію, каб яна хутчэй вывела свае войскі з Прыбалтыкі. Яны, па словах Буткявічуса, уяўляюць сабой бескантрольную і незалежную палітычную сілу. Ваеннаслужачыя прадаюць зброю арганізаваным злачынным групам, наносяць экалагічны ўрон, ствараюць эканамічныя цяжкасці.**

* Прэзідэнт ЗША Буш адмовіўся сустрэцца ў Вашынгтоне з лідэрам Лівіі Кадафі па яго прапанове. Кадафі хацеў абмеркаваць выхад з крызісу, у які трапіла Лівія пасля ўзрыву двух самалётаў агентамі яе спецслужбаў.

* **Падпісана пагадненне аб здабычы нафты ў раёне шэльфа Сахаліна. У ёй будуць удзельнічаць дзве амерыканскія і адна японская фірмы.**

* Міністр замежных спраў Сірыі заявіў, што Украіна можа адыграць станоўчую ролю ў ліквідацыі канфлікту на Блізкім Усходзе. Бо Украіна ўстанаўлівае цесныя сувязі з Ізраілем і магла б быць пасрэднікам.

* **Прадстаўнік МАГАТЭ выказаў меркаванне, што ўстарэлыя рэактары савецкай вытворчасці на Казладуйскай атамнай станцыі Балгарыі ўяўляюць вялікую небяспеку.**

### «НЯМЕЦКАЯ ХВАЛЯ»

* Прэзідэнт Буш сумняваецца ў неабходнасці прыняцця Японіі і Германіі ў Савет Бяспекі ААН, таму што гэта можа падарваць пазіцыі ЗША.

* **Прэзідэнт Польшчы Л. Валенса знаходзіцца ў Боне з чатырохдзённым візітам. Чакаецца, што ён звернецца з просьбай аб павелічэнні заходнегерманскіх капітальных укладанняў у эканоміку Польшчы і будзе пераконваць нямецкіх прадпрымальнікаў у неабходнасці развіцця дзелавых сувязей з палякамі.**

* На з'ездзе кіруючай партыі Румыніі — Фронту нацыянальнага выратавання так і не ўдалося выбраць кандыдатуру на пост прэзідэнта. Цяперашні прэзідэнт Іліеску прапанаваў вылучыць яго кандыдатуру, але супраць выступіў былы прэм'ер - міністр Роман, у мінулым паплечнік Іліеску. Гэта выклікала бурны пратэст прыхільнікаў цяперашняга прэзідэнта.

### «ГОЛАС АМЕРЫКІ»

* **Пасол ЗША ў Расіі Страус, як паведамляе «Тайм», на нарадзе старшых супрацоўнікаў пасольства сказаў, што збіраецца змяніць саму сутнасць дзейнасці прадстаўніцтва. Яго не задавальняе пасіўнае назіранне за падзеямі. Калі Вашынгтону патрэбны рэпарцёр, то хай там глядзяць тэлепраграму Сі-Эн-Эн. Страус жа не хоча абмяжоўвацца пратакольнымі функцыямі, а імкнецца быць карысным гэтай краіне пры пераходзе да рынку і дэмакратыі. Такая пазіцыя выклікае незадаволенасць асобных прафесіянальных дыпламатаў.**

* Ю. Лужкоў і іншыя кіраўнікі Масквы звярнуліся да Ельцына за дапамогай у сувязі з тым, што Маскве пагражае фінансавае банкруцтва. Штогод яна траціць каля 130 млрд. рублёў, а зараз на яе рахунках усяго 68 млрд. рублёў. Гэта можа прывесці да адстаўкі кіраўніцтва Масквы, бо прыйдзецца прыпыніць выкананне важных сацыяльных праграм.

* **У ЗША знойдзены працоўныя месцы для савецкіх вучоных і спецыялістаў - ядзершчыкаў. 150 месцаў у прыватным сектары і 150—ва універсітэтах.**

* У ЗША ўсё больш дзяржаўных дзеячаў прыходзяць да высновы, што трэба спыніць выпрабаванні ядзернай зброі, бо СНД ужо не ўяўляе такой небяспекі, як былы СССР.

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ

### СЛОНІМСКІЯ КРЫМІНАЛЬНЫЯ ВЕСТКІ

Сумна скончыўся «візіт» у Слонім для двух маладых людзей, якія прыбылі ў горад, каб купіць у турэцкіх рабочых «зялёныя» — па 120 рублёў за штуку. Прычым мужчына прыехаў з Літвы, а яго знаёмая — з Ліды. «Апякаўшыя» гэты ўчастак мясцовыя рэкеціры (чацвёра маладых юнакоў) запатрабавалі з гасцей «пошліну» ў размеры пяці тысяч рублёў. Невядома, чым бы ўсё скончылася, калі б не пазванілі ў міліцыю.

***

**Вынаходлівым аказаўся жыхар горада, які вырашыў абчысціць кішэні заморскага госця. Спачатку ён пачаставаў яго спіртным, потым прапанаваў «напракат» жанчыну і зацягнуў адпачыць на Шчару. Але «нядоўга музыка іграла»: ён хутка адпрацаваў на турэцкім рабочым прыёмы кулачнага бою і, забраўшы ўсё, што было ў кішэнях, уцёк. Праўда, па прыкметах, якія передаў заморскі госць з бальніцы, злодзей быў злоўлены міліцыяй.**

***

У Слоніме аб'явіўся новы «Джэк-патрашыцель» падвалаў. Праўда, яму ўсяго 16 і завуць Гена. Малады дзялок сабраў пад свой зладзейскі сцяг групу падлеткаў, якія абрабавалі 6 гаражоў, спрабавалі ўгнаць машыну, абчысцілі вялікую колькасць падвалаў. Каб праславіцца, вырашыў махнуць на ўкрадзенай машыне ў Мінск, але акумулятар аказаўся слабы...

Праз два тыдні аматары смачна паесці і пакатацца былі злоўлены.

Цікава, што завадатар, выходзячы «на справу», рэгулярна мяняў састаў групы. Нічога не скажаш: маладыя, ды ранні.

### ЗНОЎ «ТРАЎКА»

**Раскрыты два злачынствы, звязаныя з наркотыкамі. У першым выпадку затрыманы дзве мінчанкі (абедзвюм па 22 гады), якія займаюцца вырабам зелля. У другім затрыманы жыхар адной з сярэднеазіяцкіх рэспублік, у якога выяўлены і адабраны каноплі.**

**На жаль, супрацоўнікам гарадскога крымінальнага вышуку ўсё часцей прыходзіцца сутыкацца з фактамі паступлення «траўкі» з паўднёвых рэгіёнаў былога СССР.**

**С. РАЧЫЛА.**

**г. Мінск.**

### ВАКЗАЛ ДЛЯ СЕМЯРЫХ

Намнога цікавей стала наведваць чыгуначны вакзал. Ідзеш —і музыка грае. Тут табе і вальсы, і поп...

Аказваецца, сямёра маладых людзей, большасць з якіх студэнты, такім чынам вырашылі падтрымліваць сваё існаванне на гэтым свеце. Амаль кожны дзень на 2—3 гадзіны (у залежнасці ад надвор'я) яны бяруць у рукі інструменты і... пачынаюць. Любы прахожы можа заказаць сваю любімую мелодыю.

Цікава ўсё ж, што людзі прыслухоўваюцца да музыкі.

— Ці не марна мерзнеце? — пытаюся ў аднаго з хлопцаў.

— Не,—адказвае ён.— І справу, здаецца, нядрэнную робім, і на абед хапае.

**Абдул ХАМІД, студэнт БДУ, Йемен.**

## Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

1992 г. унесці ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прапановы аб упарадкаванні льготнага водпуску лекаў і вырабаў медыцынскага прызначэння.

6. Міністэрству аховы здароўя, аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому забяспечыць кантроль за захаванасцю і рацыянальным выкарыстаннем паступаючых па лініі гуманітарнай дапамогі лекавых прэпаратаў і вырабаў медыцынскага прызначэння.

***

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь падтрымлівае ініцыятыву калектыву Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода, які прыняў рашэнне аб набыцці за рубяжом шляхам бартэрных здзелак лекавых сродкаў на суму 2 млн. долараў ЗША.

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь звяртаецца да кіраўнікоў вытворчых аб'яднанняў «Мінскі трактарны завод імя У. І. Леніна», «БелаўтаМАЗ», «Наваполацкнафтааргсінтэз», «Азот», «Беларускалій», «Атлант», «Гарызонт», асацыяцыі «Белшына», іншых аб'яднанняў і прадпрыемстваў з просьбай адшукаць магчымасць для закупкі імпартных лекавых сродкаў для сваіх працоўных калектываў і насельніцтва рэспублікі.

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. КЕБІЧ.**

**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. КАЎКО.**

**Пералік матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў і тавараў народнага спажывання, выдзяляемых для закупкі за рубяжом лекавых прэпаратаў, фармацэўтычных субстанцый і вырабаў медыцынскага прызначэння**

| Назва рэсурсаў і тавараў | Адзінка вымярэння | Колькасць |
|---|---|---|
| **З РЭСПУБЛІКАНСКАГА ФОНДУ СТАБІЛІЗАЦЫІ РЫНКУ** | | |
| Аўтамабілі грузавыя | штук | 500 |
| Прычэпы, паўпрычэпы, трайлеры | —»— | 100 |
| Трактары | —»— | 1000 |
| Поліэтылен | тыс. тон | 3 |
| Аміяк сінтэтычны | —»— | 4,8 |
| Драўніна дзелавая | тыс. куб. метраў | 28,6 |
| Піламатэрыялы | —»— | 8,5 |
| Цэгла будаўнічая | млн. штук | 7,5 |
| Мазут | тыс. тон | 15 |
| Дызельнае паліва | —»— | 22 |
| Бензін | —»— | 22 |
| Капралактам | —»— | 2 |
| Шыны для грузавых аўтамабіляў | тыс. штук | 2 |
| Шыны для трактароў | —»— | 4 |
| Станкі металарэзныя | —»— | 45 |
| Падшыпнікі качэння | млн. штук | 0,5 |
| Плітка керамічная глазураваная (для ўнутранай абліцоўкі) | тыс. кв. метраў | 9 |
| Хлорысты калій | тыс. тон у фіз. вазе | 30 |
| Тэлевізары каляровага адлюстравання | тыс. штук | 10 |
| Халадзільнікі і маразільнікі | —»— | 1 |
| Гадзіннікі бытавыя | —»— | 100 |
| Фотаапараты | —»— | 10 |
| **З РЫНАЧНАГА ФОНДУ** | | |
| Тэлевізары каляровага адлюстравання | тыс. штук | 22 |
| Халадзільнікі і маразільнікі | —»— | 25 |
| Маргарынавая прадукцыя | тыс. тон | 2,8 |
| Веласіпеды | тыс. штук | 12 |
| Гарэлка, лікёра-гарэлачныя вырабы | тыс. дал. | 30 |
| Піяніна | штук | 350 |
| Гадзіннікі бытавыя | тыс. штук | 250 |
| Дываны і дывановыя вырабы | тыс. кв. метраў | 60 |
| Мэбля | млн. руб. | 2,5 |
| Фотаапараты | тыс. штук | 25 |
| Электрамясарубкі | —»— | 3 |
| Электраміксеры | —»— | 3 |
| Крухмал | тыс. тон | 0,9 |
| Запалкі | умоўн. скрынь | 30 |

**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. КАЎКО.**

### КАЛЯНДАР «ЗВЯЗДЫ»

**3 красавіка** — 70 гадоў назад (1922) заснаваны Мінскі педагагічны інстытут імя А. М. Горкага (як педагагічны факультэт БДУ; з 1931 года —самастойны інстытут). Гэтая вышэйшая навучальная ўстанова (дарэчы, адна з буйнейшых у Беларусі) рыхтуе настаўнікаў сярэдніх школ, работнікаў дашкольных дзіцячых устаноў і іншых спецыялістаў педагагічнага профілю. Інстытут даў Беларусі такіх выдатных пісьменнікаў, як А. Астрэйка, С. Грахоўскі, У. Карпаў, А. Куляшоў, У. Някляеў, Т. Хадкевіч, С. Шушкевіч і шмат іншых.

## АДНА ГАЛАВА ДОБРА, А ДЗВЕ — ПОСПЕХ У ГАСПАДАРЦЫ

ХАНОЙ. Тры гады назад хлопчык з паўднёвав'етнамскай правінцыі Цьензянг па імені Нгуен Фу Дык прама ля парога свайго дома злавіў невялікую змяю даўжынёй усяго каля васьмі сантыметраў. Яе характэрнай асаблівасцю было падабенства з казачнымі страшыдламі — наяўнасць адразу двух галоў.

Нягледзячы на пратэсты бацькоў, Дык вырашыў пакінуць такую рэдкую рэптылію ў сябе дома і заняцца яе вывучэннем. Ён заўважыў, што змяя, як ёй і належыць, кожны месяц мяняе скуру і працягвае расці. Яна ўжо дасягнула 30 сантыметраў у даўжыню. Абедзве галавы адчуваюць сябе цудоўна, праўда, часта б'юцца з-за ежы. Але гэта не перашкаджае ім заставацца на адным тулаве.

Не пазбаўленыя забабонаў бацькі хлопчыка заўважылі, што са з'яўленнем у доме змяі справы ў гаспадарцы пайшлі значна лепш, і вырашылі змяніць гнеў на міласць. Таму двухгаловае стварэнне стала не толькі паўнапраўным членам сям'і, але і яе талісманам, піша прафсаюзная газета «Лао Донг».

## БАРАЦЬБА З РАСПАЎСЮДЖВАННЕМ НАРКОТЫКАЎ

КАБУЛ. За бягучы афганскі год, які закончыўся 20 сакавіка, мясцовымі праваахоўнымі органамі канфіскавана каля 8 тон гашышу, ліквідавана 176 опійных курыльняў, арыштавана і аддадзена пад суд 57 бандыцкіх груп, якія займаліся наркабізнесам. Гэтыя афіцыяльныя даныя прыведзены ў газеце «Кабул таймс».

Вытворчасць і распаўсюджванне наркотыкаў заўсёды лічылася ў Афганістане найвялікшым злом. Менавіта таму краіна яшчэ ў 1935 годзе падпісала опійную канвенцыю, а 19 сакавіка 1963 года далучылася да канвенцыі па наркотыках. У пытаннях барацьбы з наркабізнесам Афганістан цесна супрацоўнічае з іншымі краінамі і міжнароднымі арганізацыямі. У самой рэспубліцы створана вышэйшая камісія па барацьбе з кантрабандай, вытворчасцю і распаўсюджваннем наркотыкаў. Аб значэнні, якое надае данай праблеме цяперашні ўрад, сведчыць і той факт, што камісію ўзначальвае віцэ-прэзідэнт Афганістана генерал арміі Махамад Рафі.

**З дробнага каляровага пяску створаны гэтыя мудрагелістыя карункі, адлюстраваўшыя складаны старажытны комплекс рэлігійна-філасофскіх сімвалаў. Іх аўтары — тыбецкія манахі, асабістыя пасланнікі Далай-ламы сцвярджаюць, што карункі дакладна перадаюць вялікі жыццёвы кругаварот. Карункі, створаныя ў працэсе абраду па ўсіх рэлігійных канонах, неабходна адразу ж знішчыць, але ў гэтым выпадку зроблена выключэнне, і твор тыбецкіх манахаў перададзены ў Нью-Йоркскі музей.**

# ЗАМЕЖЖА

## КАНАДСКІЯ ЖАНЧЫНЫ НАКІРАВАЛІСЯ Ў ПАЛІЦЫЮ

АТАВА. Жанчына-паліцэйскі перастае быць рэдкасцю сярод канадскіх ахоўнікаў парадку. Цяпер на долю жанчын у паліцыі прыпадае 7 працэнтаў, а два дзесяцігоддзі назад яна была роўная толькі 0,4 працэнта.

Паводле даных статыстычнага бюро, усяго ў Канадзе 56.774 чалавекі служаць у паліцыі ўсіх узроўняў (існуюць федэральная, правінцыяльныя і мясцовыя службы). Адзін паліцэйскі прыпадае на 475 жыхароў. Трапіць на работу ў службу аховы парадку ў Канадзе нялёгка, трэба вытрымаць даволі прыдзірлівую праверку пры ўступленні і прайсці прыцяглы курс навучання.

## УСЯКАЯ ЎСЯЧЫНА

**У Югаславіі летняя рэзідэнцыя генерала Ціта ператворана ў турысцкі курорт, а яго «блакітны поезд» — у шыкоўны транспарт для багатых. Цяпер яго «палатка», дапоўненая абагравальнікамі, электрычнасцю і дарагімі дыванамі, ператварылася ў новы, найбольш вытанчаны рэстаран у Югаславіі.**

***

У вуглавым камені гарадской сцяны Вашынгтона (ЗША) знойдзена капсула, змешчаная туды ў 1869 годзе прэзідэнтам Грантам. Вось што людзі, якія жылі тады, лічылі вартым захаваць для будучых пакаленняў: бутэлька манангахельскага хлебнага віскі, частку ўстаўных зубоў, кавалачак тканіны, у якую была загорнута труна Генры Клея, галінка вярбы, што навісала над магілай Напалеона, і некалькі дамскіх капялюшыкаў, сапсаваных вадой.

***

**Амерыканскае міністэрства турызму і падарожжаў прадказвае, што ў гэтым годзе Амерыку наведае рэкордная колькасць замежных турыстаў — 44,5 мільёна, расходы якіх могуць дасягнуць 63,9 мільярда долараў. Міністэрства па турызму і падарожжах прадставіла гэтыя даныя на Міжнародную канферэнцыю па турызму ў Арлінгтоне. У 1991 годзе даход ад замежнага турызму склаў 10,6 мільярда долараў, у той час як у Японіі — толькі 8,1 мільярда, што складае 17,9 працэнта міжнародных даходаў ад турызму.**

***

**МАСЕРУ. Унікальная аперацыя па выдаленню «лішніх» канечнасцей у малыша, які нарадзіўся з чатырма нагамі, праведзена ў ПАР. На працягу дзесяці гадзін брыгада з шасці хірургаў дзіцячай бальніцы Чырвонага Крыжа ў Кейптаўне працавала над выпраўленнем прыроджаных дэфектаў маленькага Азіза Раілуна.**

**Пяцімесячны Азіз паявіўся на свет з двума раздзельнымі тазасцегнавымі суставамі і двума палавымі органамі. Паводле слоў медыкаў, такія анамаліі — вельмі рэдкая з'ява, магчымая толькі ў адным выпадку з мільярда.**

**Хірургі выдалілі непатрэбную тоўстую кішку, «нанава сканструявалі» ныравую частку цела. Поўнасцю раздзяліўшы два суставы, яны пры гэтым спалучылі пару здаровых ныр ак аднаго з іх з мачавым пузыром на другім.**

**Як заявіў дырэктар бальніцы, аперацыя прайшла «больш удачна, чым чакалася, стан пацыента стабільны, у малыша добрыя шанцы на папраўку». Аднак яшчэ рана меркаваць аб тым, ці зможа дзіця нармальна хадзіць у будучым.**

***

Часопіс амерыканскай медыцынскай асацыяцыі апублікаваў даследаванне, якое сцвярджае, што алкаголікі, даўшыя зарок не піць нават пасля 10 гадоў цяжкага запою, змогуць пражыць столькі ж, колькі непітушчыя ці тыя, што п'юць ад выпадку да выпадку. Ужо вядома, што ў алкаголікаў, якія працягваюць піць, рызыка смерці ў сярэднім у 5 разоў большая, чым у непітушчых. У даследаванні, якое мела мэтай вызначыць, ці пастаянная шкода, што наносіцца арганізму алкаголем, назіралася 119 алкаголікаў з 1976 па 1987 год. Тыя, хто кінуў піць, літаральна выратавалі сваё жыццё.

## ЦАРСТВУЕ, АЛЕ НЕ ПРАВІЦЬ

ЛОНДАН. 40 гадоў споўнілася з таго часу, як на брытанскі прастол узышла Лізавета II — кіраўнік Злучанага Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, дзяржаўнай англіканскай царквы, уладальнік многіх іншых высокіх і ганаровых званняў, тытулаў. Брытанцы любяць сваю каралеву. Паводле аднадушнай думкі аглядальнікаў, на працягу ўсіх 40 гадоў яна не дапусціла ніводнага промаху, дастойна спраўляючыся са сваімі абавязкамі, сімвалізуючы адзінства нацыі. Брытанскія манархі стаяць у баку ад палітыкі. Яны царствуюць, але не правяць, уважліва сочачы за тым, што робяць або збіраюцца рабіць «іх прэм'ер-міністры».

**На здымку:** Лізавета II са сваім мужам (здымак зроблены ў чэрвені 1991 года).

## І САМАЛЁТ НАГАДВАЕ ІМ ПРА МАО

**ПЕКІН. «Маоманія» ў Кітаі, здаецца, не абмяжоўваецца выданнем аўдыёкасет з песнямі аб кормчым кітайскага народа Мао Цзэдуне, публікацыяй артыкулаў з успамінамі аб ім і выпускам дробнай атрыбутыкі з яго адлюстраваннем. Хутка насельніцтва Пекіна і прыезджыя з розных гарадоў і правінцый Кітая змогуць нават убачыць самалёт, на якім лятаў кітайскі кіраўнік.**

**Як паведамляе газета «Чжунга жыбао», у музеі кітайскай авіяцыі будзе выстаўлены для ўсеагульнага агляду самалёт ІЛ-14, які быў падораны Мао Цзэдуну Сталіным.**

## МАЛЕНЬКАЯ, ДЫ ЎДАЛЕНЬКАЯ... ВІДЭАСІСТЭМА

ЛОНДАН. Вышэйшай узнагароды за дасягненні ў галіне электроннай мініяцюрызацыі на праходзячай тут у гэтыя дні сусветнай выстаўцы ахоўнай і проціпажарнай сігналізацыі ўдастоены дзеючы ўзор ахоўнай відэасістэмы, створаны адной з брытанскіх фірм на аснове распрацовак вучоных Эдынбургскага універсітэта

У аснове новай сістэмы — мініяцюрная відэакамера памерам з запалкавы карабок і інфрачырвоны датчык. Датчык рэагуе на цяпло чалавечага цела і ўключае мікравідэакамеру, якая з інтэрваламі у секунду робіць здымкі ахоўваемай зоны. Адлюстраванні разам з сігналам трывогі перадаюцца ў пункт аховы або паліцыю.

*Па матэрыялах інфармацыйных агенцтваў і друку.*

## ШАШКІ

Пад рэдакцыяй майстра спорту М. Грушэўскага

**РУСКІЯ ШАШКІ**
**Конкурс № 92**
**Заданне № 6**
**Валянцін Сцяпанаў**
(г. Абаза)

**Белыя:** простыя a1, a5, b4, c3, c5, e1, f2, g1 (8).

**Чорныя:** простыя a7, b2, e5, g3, g5, g7, h2, h4 (8).

Ход і выйгрыш белых (два ачкі).

**МІЖНАРОДНЫЯ ШАШКІ**
**Конкурс № 54**
**Заданне № 6**
**Пётр Шклудаў**
(г. Наваполацк)

**Белыя:** простыя 6, 31, 36, 38, 41, 42, 43, 44, 49 (9).

**Чорныя:** простыя 4, 13, 20, 22, 26, 29, 30, 33, 34, 35 (10).

Белыя пачынаюць і выйграюць (два ачкі).

**ШАШКІ + ШАХМАТЫ**
**Конкурс № 3**
**Заданне № 6**
**Віктар Шульга**
(г. Мінск)

**Белыя:** сланы d6, g5, пешка c5, простая g7 (4).

**Чорныя:** простая d8 (1).

Пачынаючы, белыя запіраюць простую чорных (адно ачко).

Чакаем таксама ацэнак гэтай казачнай задачы па зместу ад 0 да 10 ачкоў.

**ПЕРАМОЖЦЫ АДЗНАЧАНЫ**

Лаўрэатам нашага рэспубліканскага конкурсу рашэнняў пазіцый па міжнародных шашках **№ 100—50** выслана мастацкая і шашачная літаратура. Сярод адзначаных: **Ал. Акуліч** (г. Віцебск), **Ул. Сапяжынскі** (г. Рагачоў), **П. Века** (Калінкавіцкі р-н), **В. Мітліцкі** (г. Мінск) і **Алена Хацкевіч** (г. Барысаў).

**РАШЭННІ**

**100-52-2** (А. Акуліч): 1. 37-32 2. 39-33! 3.29:9 і г.д.

**64-89-9** (П. Шклудаў): b8 (b4АБ). e3!, c1 (c3), f4 (b2В), e5×. А (cd4), c7 (c3), e3, c1×. В (ed4), g3 (c3), h4 (b4), g7, a3 (d2), e3×. В (g7), f8 (b2), g7×.

**64(РШ)-86-20** (А. Акуліч): bc7, bc5, a:g3 (fe7), h:f4 (ed6), fe3! (h:d4), fg5, hg3, g:e7×. Падманны след: 1. fg3? h:f2 2. g:c5 fe7! з нічыёй.

**64-92-1** (Іван Наўроцкі): gf2, gh6, h:d6 (bg1), dc5, a:c5×.

**100-54-1** (Валянцін Сцяпанаў): 13, 2 (29), 7 (33), 11×.

**64 (ш+ш)-3-1** (Ул. Сапяжынскі): e7 (d6), e1 і г.д.

**МУЖЧЫНЫ, ДА БАР'ЕРА!**

Захапленне шашачнай кампазіцыяй сярод жанчын — вельмі рэдкая з'ява. Таму з вялікім задавальненнем прапануем мініяцюру мінчанкі Людмілы **Румянцавай:**

**Белыя:** простыя a1, b2, b6, c1, e1, f2 (6).

**Чорныя:** простыя a3, a7, c3, d4, d8, e7, g7 (7).

Белыя пачынаюць і выйграюць.

А цяпер, мужчыны, да бар'ера! Нам і Людміле цікава, хто з вас справіцца з заданнем. Прозвішчы рыцараў абавязкова апублікуем. Чакаем рашэнняў.

